РАЁННАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ

№ 59 (7872) Заснавана ў красавіку 1931 года СЕРАДА, 2 жніўня 2000 г. Цана 25 руб.

# Закрыць усе шляхі страт ураджаю. Усё вырашчанае ўбраць і захаваць!

## РАЁННЫ ШТАБ ПА ЎБОРЦЫ ЎРАДЖАЮ ІНФАРМУЕ І СТАВІЦЬ ЗАДАЧЫ:

***Усяго па раёну ў калгасах належала ўбіраць 17574 гектары зерняых і зернебабовых культур. Па стану на 31 ліпеня збажына ўбрана на 2142 гектарах, што складае 12,2 працэнта плошчы. Валавы збор склаў 3836 тон. Ставіцца задача: пераходзіць на ўборку лепшых па ўраджайнасці ўчасткаў, а там, дзе ўраджайнасць складае 10 цэнтнераў – выкарыстаць для папаўнення запасаў кармоў.***

*Адначасова з уборкай трэба рыхтавацца да сяўбы азімых. Асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на якасць ворыва. Пад азімыя трэба ўзараць 10220 гектараў. Па стану на 31 ліпеня ўзарана 916 гектараў. У калгасах "Новы быт" і "Дуброва" засыпана адпаведна 57 і 52 тоны насення азімых культур.*

***Па раёну на 1 умоўную галаву жывёлы нарыхтавана па 7,3 цэнтнера кармавых адзінак травяністых кармоў. Папоўніць запас грубых кармоў можна за кошт саломы. Пакуль у калгасах не разгарнулі работу па ўборцы саломы, яе звезена з палёў толькі 522 тоны.***

*Улічваючы ныспрыяльнае надвор'е, варта больш увагі ўдзяліць захаванню і перапрацоўцы зерня на збожжатаках. Перавозіць зерне толькі ў абсталяваным для гэтых мэт транспарце.*

***Самую высокую ўраджайнасць азімых пшаніцы і жыта атрымалі ў калгасе "Дуброва". Азімай пшаніцы сабрана з гектара па 28,1 цэнтнера, жыта – па 25,7.***

## ДОШКА ГОНАРУ

**Лепшых вынікаў на ўборцы збожжавых па стану на 31 ліпеня дабіваюцца:**

Экіпаж у складзе **ГРАКАВА Сяргея Аляксандравіча** і яго брата **Уладзіміра Аляксандравіча** з калгаса "Парыжская камуна", які намалаціў з пачатку жніва на камбайне "Дон-1500" 135 тон збожжа.

Экіпаж у складзе **ЛАХЦІКАВА Пятра Аляксандравіча** і **МЯКЕНЬКАГА Аляксандра Пятровіча** з калгаса "Парыжская камуна", які на камбайне "Дон-1500" намалаціў 113 тон зерня.

**ЛАХЦІКАЎ Анатоль Аляксандравіч** і **ГРУЗІНАЎ Сяргей Аляксандравіч** з гэтай жа гаспадаркі на камбайне "Дон-1500" намалацілі 111 тон збожжа.

106 тон зерня на рахунку **ЛАРЧАНКІ Уладзіміра Сяргеевіча** і **МІРАНКОВА Івана Васільевіча** з калгаса "Новы быт".

**БАЛДУЕЎ Вячаслаў Віктаравіч** і **АРЛОЎ Віктар Міхайлавіч** з калгаса "Дуброва" на камбайне "Дон-1500" намалацілі 100 тон збожжа.

**<u>На адвозцы зерня вызначаюцца:</u>**

**КАЗАКОЎ Аляксандр Фёдаравіч** з калгаса "Новы быт", які на аўтамашыне "Урал" перавёз 205 тон збожжа.

111 тон зерня даставіў на аўтамашыне ГАЗ-53 на ток вадзіцель калгаса "Дуброва" **ПАТАПЕНКА Віктар Іванавіч**.

## Першыя сто тон Анатоля Лахцікава

У калгасе "Парыжская камуна" Анатоль Лахцікаў пачаў працаваць нядаўна. Спачатку яму даверылі трактар. А калі пачалі рыхтаваць камбайны да жніва, узяўся за справу і Анатоль. Замацаваны за ім "Дон-1500" рамантаваў у майстэрні райаграпрамтэхнікі. Сам праверыў сваю машыну ў дзеянні. Калі давёў, як кажуць, усё да ладу, выехаў на жытнёвае поле.

Каля вёскі Чырвоная Зара зараз шчыруюць на палетках азімага жыта камбайны калгаса. Тут і адкрыты рахункі намалочаных тон збожжа. Пакуль у Анатоля Лахцікава трэці вынік у спаборніцтве сярод камбайнераў гаспадаркі. Ён з Сяргеем Грузінавым намалаціў 111 тон жыта. Пачатак зроблены.



**На здымку: Анатоль ЛАХЦІКАЎ.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

## ЗА ПРАДУКЦЫЮ – ПОЎНЫ РАЗЛІК

Плаціць за здадзеную сельскагаспадарчую прадукцыю кожны тыдзень заклікаў Аляксандр Лукашэнка адпаведныя службы на рэспубліканскай селектарнай нарадзе Прэзідэнт запатрабаваў ад урада і Міністра сельскай гаспадаркі і харчавання неадкладна разабрацца з фінансавым станам перапрацоўчых прадпрыемстваў, у тым ліку і камітэта па хлебапрадуктах.

**БелТА.**

**ЗВЕСТКІ**
***аб уборцы збожжавых у гаспадарках раёна па стану на 31 ліпеня г.г.***

*Першая калонка – назвы гаспадарак, другая – убрана зерняывых і зернебабовых у працэнтах да плана, трэцяя – ураджайнасць (ц/га)*

| | | |
|---|---|---|
| "Новы быт" | 18,9 | 17,3 |
| "Радзіма" | 18,4 | 20,2 |
| "Лен. шлях" | 17,5 | 14,2 |
| "Расія" | 17,4 | 16,3 |
| "Пар. камуна" | 16,2 | 21,5 |
| "Дуброва" | 15,7 | 26,7 |
| "Прагрэс" | 15,6 | 15,0 |
| "Новае жыццё" | 11,4 | 22,2 |
| "Забычанне" | 9,7 | 13,4 |
| "Смолькі" | 8,5 | 15,1 |
| імя К. Маркса | 8,3 | 10,1 |
| "Праўда" | 8,3 | 17,9 |
| "Кранштат" | 7,0 | 16,0 |
| "Баронькі" | 6,2 | 15,1 |
| імя Калініна | 1,8 | 17,4 |
| **ПА РАЁНУ:** | **12,2** | **17,9** |

## РЭЙД
## СТРАТАМ — ЗАСЛОНУ

Надвор'е сёлета не песціць земляробаў. Частыя дажджы перашкаджаюць набраць тэмпы на ўборцы збажыны. Але хоць і з перапынкамі, жніво ўсё ж ідзе. Рэйдавая брыгада ў саставе супрацоўнікаў ДАІ і рэдакцыі ў адзін з дзён, калі выдаўся ён сонечным і на палі выйшлі камбайны; праверыла гатоўнасць тэхнікі да ўборкі і перавозкі збожжа.

Па дарозе ў калгас "Ленінскі шлях" сустрэлася аўтамашына, якая перавозіла збожжа. Кіраваў ёй І. Табанькоў з ААТ "Касцюковіцкая райаграпрамтэхніка". Як шэфы, яны дапамагаюць калгасу. Вадзіцель пабываў ужо ў Клімавічах са збожжам, але там яго не прынялі, — вільготнасць вялікая. А зараз вязе на ААТ "Касцюковіцкае хлебапрыёмнае прадпрыемства", можа прымуць. Машына загерметызавана, а вось бак дрэнна запаяны і з яго падцякае бензін. Мала таго, што дарэмна спаліў яго да Клімавіч і назад, яшчэ ж і тут страты...

На перавозцы збожжа быў заняты і вадзіцель з Магілёўскага ўпраўлення "Дарсервіс" ААТ "АСТ-3" В. Пупкоў, якога мы сустрэлі на дарозе. Яны таксама шэфы і дапамагаюць гаспадарцы ва ўборцы. Машына была падрыхтавана да перавозкі ўраджаю.

Дык адкуль жа тады зерне на дарозе, якая вядзе на ток? Усыпана ім было не менш кіламетра. Відаць, прасыпалася праз барты, хаця яны і высокія. Тэнтам жа кузаў не зацягвалі, бо, як сказалі вадзіцелі, збожжа вільготнае і ветрам не здзімаецца. Трэці дзень тут убіраюць, а страты ўжо відавочныя.

На збожжатаку ішла ачыстка збожжа, на працэсе якога былі заняты падлеткі. У першую чаргу яно рыхтавалася да продажу дзяржаве.

У калгасе "Забычанне" на таку пакуль было ціха. Збожжа, якое прывезлі (тры машыны), было адпраўлена ў сушылку і рабочыя адпачывалі. На пытанне, чаму нізкія тэмпы ўборкі, аграном калгаса І. Малюга адказаў, што на палі выйшлі 5 камбайнаў, адзін хутка зламаўся. Ды і другі трэба адпраўляць на рамонт.

Не зроблены як след пад'езд да збожжатока. Дарога ў калдобінах, ямінах, запоўненых вадой.

Такое ж становішча з пад'язнымі шляхамі ў калгасах "Радзіма", "Новае жыццё".

У калгасе "Расія" усё, што змаглі зрабіць па герметызацыі кузавоў аўтамашын, зрабілі. А тэнтаў няма. На жніве тут, па словах агранома І. Васілеўскага, працуюць 7 камбайнаў. За чатыры дні намалацілі 79 тон збожжа азімай пшаніцы. Ужо некалькі тон здалі дзяржаве.

Убіраецца і салома. Тут ужо не абыйшлося без казусаў. У нецвярозым стане быў затрыманы на вёсцы Валынеж А. Шаталенка, які працаваў з прэсам. Супрацоўнікамі ДАІ складзены пратакол на яго. Відаць, палічыў, што не такі адказны ў яго ўчастак.

У той жа дзень быў затрыманы ў нецвярозым стане і С. Шафраноўскі, які працуе слесарам у ДРБУ-130. У сувязі з тым, што не хапае вадзіцеляў, яго часова задзейнічалі на асфальтаўкатчыку.

9 камбайнаў працавалі ў той дзень на ўборцы збажыны ў калгасе "Дуброва". На таку ўжо ляжалі горкі збажыны. Парушэнняў рэйдавай брыгадай выяўлена не было.

Напярэдадні рэйду былі праведзены праверкі тэхнічнага стану і абсталявання транспартных сродкаў у калгасе "Новы быт". З сямі аўтамашын у спраўным стане былі дзве, у "Дуброве" з 10 таксама дзве.

Абследаваны пад'язныя шляхі да збожжатакоў і сушылак. У калгасе імя Карла Маркса яны як след не зроблены. Няма агароджы па ўсяму перыметру збожжатоку. Гэтак жа і ў калгасе імя Калініна, выбоіны на дарозе да збожжатоку, а на яго тэрыторыі буяе трава.

Здавалася б, дробязі. Але ж з малога пачынаецца вялікае. Нельга абыякава адносіцца да хлеба, вырашчанага ў нялёгкіх умовах.

**РЭЙДАВАЯ БРЫГАДА:**
**Мікалай КАЗЛОЎ,**
**Уладзімір КАСЯНКОЎ,**
**Артур АБУХОВІЧ,**
**супрацоўнікі ДАІ;**
**Валянціна ФРАЛЯНКОВА,**
**супрацоўнік райгазеты.**

## ДАПАМОГА

### *Поле суседа — не чужое*

Гардзееўская раённая газета "Ударник" Бранскай вобласці пад рубрыкай "Беларусы ў "Іпуці" змясціла матэрыял аб дапамозе механізатараў калгаса "Баронькі" ў нарыхтоўцы кармоў. Намеснік старшыні СВК (сельскі вытворчы калектыў) В. Гарыслаўскі даў наступную характарыстыку работы беларусаў:

— Працуюць хлопцы спраўна, прычым на сваёй тэхніцы. Раней васьмі гадзін раніцы выязджаюць у поле. Нашы таксама не адстаюць, але ў іх камбайны лепшыя – КСК-100 і "Палессе". Малайцы рабяты! Усё робяць, як для сябе.

Механізатары Вадзім Шугаеў і Уладзімір Грышанок у сваю чаргу падзякавалі старшыню СВК "Іпуць" Н. Ліпавага за ўмовы работы. Іх задавальняла ўсё: аплата, харчаванне, адносіны механізатараў і кіраўніцтва. Аб умовах дамоўленасці з беларусамі Н. Ліпавы гаварыць не стаў, аднак заўважыў, што лепш мець сто сяброў, чым сто рублёў. А з імі ў нас дружба даўно.

— Дарэчы, разам адзначылі дзень дружбы і яднання славян, — падсумаваў размову Н. Ліпавы, — вось на справе праяўленне славянскага братэрства.

**Віктар ЦІХАНАЎ.**



# МАЯ СЯМ'Я



## С ЮБИЛЕЕМ!

*О любви не говорят, о ней все сказано... Сказано жизнью, отданной друг другу, каждым дыханием, каждым биением сердца. Супружеская пара, прожившая в любви и согласии много лет, вызывает чувство восхищения, помогает молодежи осознать великую ценность семьи, является добрым примером того, как нужно строить дружную, достойную уважения семью. Проходят годы, а чувства остаются, крепнут со временем. Оглянуться не успели, как пришла дата, когда хочется сказать самые тёплые слова в адрес семей, сохранивших свои супружеские отношения на протяжении 25 лет. Юбилей этот называют серебренным. В июле текущего года именно его отметили семьи Леонида Наумовича и Светланы Ивановны Хайкиных, Александра Григорьевича и Натальи Захаровны Кирпиченко, Владимира Федоровича и Нины Петровны Абухович.*

*Самые лучшие поздравления и теплые пожелания адресуют в этот день им дети, родственники, друзья. И пусть звучат прекрасные слова: "Совет вам да любовь на долгие года!".*

## Радзіны гуляюць рэдка

Гэту інфармацыю аб дэмаграфічнай сітуацыі ў нашым раёне мне б хацелася пачаць словамі вядомага паэта Расула Гамзатава: "Самые лучшие новости в мире – это сообщение о рождении человека, а самая прекрасная песня та, что мать поёт у колыбели". Аднак колькасць народжаных дзяцей за паўгоддзе ў нашым раёне сведчыць аб тым, што ўсё менш гучыць каля калыскі пяшчотных калыханак. Бо за гэты перыяд года ў нас нарадзілася толькі 164 дзіцяці. Год назад гэта лічба перавышала дзве сотні – 221 дзіця. Чаму так атрымалася, сказаць цяжка. Хаця, заўважу, што колькасць заключаных шлюбаў застаецца на ранейшым узроўні – 67 за паўгоддзе.

На жаль, вельмі хуткімі тэмпамі расце колькасць тых, хто адышоў у свет іншы. У мінулым годзе памерла за паўгода 299 чалавек, сёлета ж за гэты перыяд – 308.

Прааналізаваўшы дэмаграфічную абстаноўку ў раёне за 5 апошніх гадоў, можна зрабіць вывад, што ў 1996-1997 годзе была заключана найбольшая колькасць шлюбаў. Аднак, хочацца адзначыць і тое, што так мала дзяцей, як сёлета, не нараджалася ні ў адным з пяці апошніх гадоў.

Вядома, гэта праблема стаіць востра не толькі ў нашым раёне. Сумна, аднак факт, нават у гады Вялікай Айчыннай вайны ўзровень нараджальнасці ў рэспубліцы быў вышэй, чым зараз. Сёння ў сярэднім на кожную сям'ю прыпадае менш аднаго дзіцяці. Таму ў краіне стаіць пытанне аб захаванні генафонду. Па прагнозах вучоных, калі сітуацыя ў Беларусі не палепшыцца, то праз 300 гадоў насельніцтва нашай рэспублікі знікне.

**Тамара САВІНЕЦ,**
**загадчыца аддзела ЗАГС райвыканкама.**



## Жаночае шчасце: быў бы мілы побач

Бацькі – найдаражэйшыя ў свеце людзі. Ніхто не можа так горка і ціха тужыць, як яны. Ніхто не ўмее так любіць, як бацькі, не ўмее так цярпець і ахвяраваць сабой.

Вядома, не ўсе згодзяцца з гэтым. Аднак сёння гаворка пойдзе пра бацькоў, якія ідуць адной жыццёвай сцяжынкай вось ужо 50 гадоў. Гэта Іван Яфімавіч і Таццяна Мікалаеўна Чатнеўцавы. Яны ўсё жыццё стараліся стварыць дабрабыт сваёй сям'і, пераадольваючы шматлікія цяжкасці.

Пачыналася ўсё даволі проста. У вёсцы Калодзецкае жылі хлопчык і дзяўчынка. Разам пайшлі яны ў школу, сядзелі за адной партай, разам атрымлівалі атэстаты. Яшчэ за вучнёўскай партай і нарадзілася іх светлае пачуццё. Падоўгу затрымліваўся позірк юнака на прывабных рысах твару Таццяны. Вядома, незаўважаным гэта не засталося. Аднакласнікі і вучні з малодшых класаў часта гаварылі ім услед: "Жаніх і нявеста". Гэта раздражняла Івана і крыўдзіцель атрымліваў аплявуху.

Дзяцінства праляцела хутка. Забыліся жарты і кпіны сяброў. Пачуцці, народжаныя так рана, мацнелі і набіралі сілу. Таму, напэўна, яшчэ да службы ў арміі Іван сказаў дома, што прывядзе нявесту.

22 ліпеня 1950 года і адбылося ў іх першае сямейнае свята. Не паспелі маладыя налюбавацца адзін другім, як Івана прызвалі ў армію. Доўгіх чатыры з паловай гады чакання каханага для Таццяны былі бясконцымі. І толькі ласкавая, пяшчотная свякруха часта супакойвала маладую нявестку. Старалася, як магла, займаць яе думкі, каб Таццяна не адчувала сябе, у чужым яшчэ ёй доме, адзінокай.

За гэты час яны сталі самымі блізкімі людзьмі. Жылі дружна. Таццяне, як кажуць, не было цесна са свякрухай. Аднак, як толькі вярнуўся Іван з арміі, яны вырашылі, што будуць будаваць сабе жыллё. Прайшло мала часу, пакуль нарыхтоўвалі матэрыял для будоўлі, каб ажыццявіць сваю мару. Тады за пятнаццаць тыдняў, у адну сякеру Іван зрубіў зруб, саставіў сваю хату, пачаў прыбіраць.

— Памятаю, – успамінае дачка Чатнеўцавых Валянціна, — першы дзень у новай хаце. Падлогі яшчэ не было, толькі ляжала некалькі дошак, каб можна было дайсці да печы, якую ў гэты дзень зрабілі, запалілі ў ёй дровы і паклалі пячыся бульбу. Пасля вячэры ўсе ляглі спаць на палку каля печы ў новай хаце".

Ішлі гады, расла сям'я. Яе папоўнілі Люба, Майя. Тады Іван Яфімавіч вырашыў, што трэба пашыраць жыллё. Балазе, працаваў лесніком, можна было выпісаць лесу. Зноў пачалі будавацца. Матэрыяльнае становішча, вядома, стала цяжэй. Толькі гэта не выбіла, як кажуць, маладую сям'ю з каляіны. Пераадольвалі цяжкасці разам. Стараліся маральна падтрымліваць адзін другога. Жыццярадасны нораў гаспадара ўсё ж адыгрываў сваю ролю ў стварэнні мікраклімату ў сям'і. Івана Яфімавіча паважалі ў вёсцы. І як толькі ў каго са знаёмых нараджалася дзіця, бралі яго кумам. Весяліцца любілі Чатнеўцавы не толькі на вясковых гулянках, а і часта наведвалі канцэрты ў клубе. А колькі радасці было ў дзяцей, калі ў клубе арганізоўвалася свята! Таццяна Мікалаеўна і Іван Яфімавіч прыбіралі тады сваіх старэйшых дачок і бралі з сабою. А пасля выступлення самадзейных артыстаў наладжвалі ў клубе танцы.

— Як цудоўна скакалі тады тата з мамай, — гаворыць дачка, — мы не маглі налюбавацца імі.

А калі чалавек умее адпачываць, то і работа ў яго спорыцца. Менавіта гэта можна сказаць пра Чатнеўцавых. Яны добрыя рукадзельнікі. Іван Яфімавіч – майстар на ўсе рукі. Ён складзе печ, адрамантуе абутак, зробіць бочку, стол. Пералік можна працягваць бясконца. Як кажуць, што ўбачыць вока, зробяць рукі.

Таццяна Мікалаеўна ўмее прыгожа вышываць, ткаць посцілкі, ручнікі. Усяму гэтаму навучыла сваіх дачок.

Рукі маці стваралі для дзяцей радасць і шчасце, неслі святло і цеплыню.

Павырасталі дзеці. Жыць бы бацькам, век свой дажываць ва ўтульным доме. Толькі чарнобыльская бяда прымусіла пакінуць роднае гняздо. Цяжка цяпер вымераць гора людзей, якія вымушаны былі пакінуць вёску, дзе кожны сусед быў, як брат, хаты, якія будавалі сваім мазалём, могілкі, дзе пахаваны родныя людзі.

Так Чатнеўцавы сталі гарадскімі жыхарамі. Купілі хаціну каля старэйшай дачкі і зноў жа на працягу пяці гадоў Іван Яфімавіч, як кажуць, не выпускае сякеры з рук. Таццяна Мікалаеўна -- яго верная памочніца і дарадчыца -- заўсёды побач.

Вядома, залатыя юбіляры зараз на заслужаным адпачынку. Толькі не сядзяць без справы. Акрамя таго, што ім даводзілася трэці раз будаваць жыллё, Чатнеўцавы дапамагаюць дочкам выхоўваць чатырох унукаў, трымаюць хатнюю гаспадарку, клапатліва даглядаюць агарод.

-- Усё жыццё бацькі былі для нас прыкладам. Яны вучылі нас быць добрымі, чулымі да людзей. Праз усё жыццё бацька і маці пранеслі павагу, каханне. Мы ўдзячны ім за гэта, — гаворыць дарослыя цяпер дочкі, якія маюць сваё сем'і. Дарэчы, Валянціна жыве побач з бацькамі. Працуе настаўніцай у СШ № 1 горада, Любоў – повар, Майя – швачка.

І пакуль жывуць бацькі, сустракаюць дзяцей ласкавай усмешкай, пакуль ёсць каму сказаць "тата" і "мама", дочкі будуць адчуваць сябе маладымі і моцнымі. Таму і стараюцца яны берагчы, шанаваць і любіць сваіх бацькоў не гора, а радасць прыносіць ім. У дзень залатога вяселля павіншавалі Таццяну Мікалаеўну і Івана Яфімавіча Чатнеўцавых дзеці, унукі, родзічы і сябры. Ім адрасавана шмат самых цёплых пажаданняў.

Няхай яшчэ доўга збірае бацькоўскі дом сваіх дзяцей, няхай здароўе і шчасце будуць іх спадарожнікамі.

**Наталля КАВАЛЁВА.**
**На здымку: І. Я. і Т. М. ЧАТНЕЎЦАВЫ.**
**Фота Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.**

## Вознаграждение за воспитание детей

Семья формирует гендерные отношения, поведение и ценности которые в конечном итоге влияют на характер государства. В качестве основы для культуры и традиций во многих странах семья является наиважнейшей силой, формирующей отношения между мужчинами и женщинами. Эти гендерные роли отражаются, как в зеркале, во всех решающих структурах общественной жизни. В действительности культурные нормы часто определяют: могут ли те проблемы, с которыми сталкиваются женщины (такие, как жестокость и избиения со стороны супруга), решаться на общественном, а не частном уровне. По мере того, как права женщин расширяются, многие стоящие перед женщинами проблемы, рассматривавшиеся ранее как частные, начинают осознавать как проблемы всего общества.

В настоящее время наше государство много внимания уделяет проблемам семьи. В целях улучшения её престижа, создания благоприятных условий, создаются отделы по проблемам семьи. При отделах социальной защиты работают инспектора по проблемам семьи. Все заинтересованные службы, учебные заведения, общественные организации, внешкольные формирования вдумчиво работают над реализацией государственной политики в отношении семьи, проводят ряд мероприятий, направленных на её стабильность и ответственность, охраны прав и здоровья материнства и детства. Приоритетным является оказание всех видов помощи остронуждающимся.

Особое внимание уделяется многодетным. В отделе социальной защиты имеется банк данных на все категории семей. В настоящее время на учёте в отделе насчитывается 451 многодетная семья, воспитывающая несовершеннолетних детей в возрасте до 18 лет. В соответствии со статьёй 62 Кодекса Республики Беларусь о браке и семье многодетной является семья, в которой на иждивении и воспитании находятся трое и более детей. Семья приобретает статус многодетной при рождении третьего ребёнка и при наличии в живых остальных детей (в том числе усыновленных и находящихся под опекой и попечительством) в возрасте до 18 лет. Статус многодетной семьи подтверждается удостоверением, которое будет выдаваться с августа 2000 года согласно решения районного исполнительного комитета.

Для получения удостоверения многодетной семьи родители обязаны представить в районный исполнительный комитет заявление, к которому прилагаются следующие документы: справка о составе семьи, копии свидетельств о рождении детей, справки из школы или другого учебного заведения.

Удостоверение выдается родителям, которые воспитывают детей надлежащим образом, обеспечивают их физическое, нравственное, духовное здоровье и полноценное развитие.

Не выдается удостоверение родителям, которые допускают к детям пренебрежительное, жестокое, грубое отношение, унижающее их человеческое достоинство, ведут асоциальный образ жизни, а так же в том случае, если дети находятся в детском учреждении на государственном обеспечении. Получение удостоверения – это вознаграждение за добросовестное хорошее воспитание подрастающего поколения. И получает его тот, кто достойно выполняет свой родительский долг.

**Светлана СИДОРЕНКО,**
**инспектор по проблемам семьи отдела социальной защиты райисполкома.**



***Маладыя. Фотаэцюд Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.***

ЧТО ЗА РЕШЕНИЕМ

# ХИЩЕНИЕ МЕЛКОЕ – ОТВЕТСТВЕННОСТЬ БОЛЬШАЯ

Прежде всего хотелось бы подчеркнуть, что обеспечение сохранности собственности в агропромышленном комплексе стало очень актуальной и важной задачей. В целом он по ряду причин является одним из наиболее уязвимых объектов. К нему устремлены взоры тех, кто старается поживиться чужим добром. В их числе – сами работники сельского хозяйства. Ведь стало почти привычкой тащить что-нибудь с поля, или фермы, идя с работы.

Напомню, что эта проблема находится в центре внимания районного исполнительного комитета. 30 октября 1998 года он принял решение "О состоянии сохранности собственности в агропромышленном комплексе". Его выполнение продолжает оставаться на контроле, неоднократно рассматривалось на заседаниях.

Последний раз этот вопрос обсуждался 23 февраля 2000 года. Позволю себе привести некоторые факты из протокола.

Как отмечалось, в результате проведения профилактических мероприятий, принятых определенных мер удалось значительно снизить количество хищений материальных ценностей. В 1998 году в колхозах и предприятиях агропромышленного комплекса было совершено 51 преступление такого характера, в 1999 году зарегистрировано 35 случаев.

Однако анализ криминогенной обстановки и правонарушений показывает, что успокаиваться никак нельзя. Особую озабоченность вызывают факты краж скота. Его воруют, хотя фермы охраняются. Например, из свинарника колхоза "Дуброва" в течении года в ночное время дважды были похищены поросята, несмотря на дежурство сторожей. В колхозах "Бороньки", "Смольки" из помещений МТФ угнаны лошади с санями и упряжью. Октябрьской ночью прошлого года уворованы две коровы колхоза "Правда". В летнем лагере колхоза "Прогресс" "понравились" два теленка. Из машинного двора колхоза имени Карла Маркса вынесен аккумулятор.

Одна из причин, способствующих совершению преступлений, — низкая трудовая дисциплина работников колхозов. Отмечается рост пьянства на рабочих местах. За нахождение здесь в нетрезвом состоянии привлечено к ответственности 120 человек, против 93 человек в 1998 году.

Продолжаются кражи кормов и молока с ферм. В 1999 году к административной ответственности за мелкое хищение привлечено 80 колхозников. Для сравнения, в предыдущем – 54 человека. Поэтому вторая причина преступлений — бесконтрольность со стороны заведующих ферм, бригадиров, специалистов, руководителей. Кстати, некоторые руководители, главные технологи, материально ответственные лица "не равнодушны" к народным богатствам. Бывший председатель колхоза "Ленинский путь" В. Усов по предварительному сговору с прорабом А. Марченко путем подлога документов похитили 20 квадратных метров паркета. Заведующая складом колхоза "Кронштадт" Т. Юрченко стащила 5 электродвигателей. Можно приводить и другие примеры.

В текущем году наблюдается значительный всплеск корыстных преступлений и правонарушений. Если в январе 1999 года было зарегистрировано 2 уголовные и 2 административные правонарушения, то в этом – соответственно 5 и 19 (кража сельхозпродукции). Частично это объясняется тем, что повысилась активность сотрудников РОВД, служб райисполкома по пресечению и недопущению преступлений.

Проверки показывают, что до настоящего времени не приведены в надлежащее состояние мехдворы колхозов "Новый быт", "Забычанье", "Новая жизнь, "Родина", имени Калинина, имени Карла Маркса, "Смольки", "Россия". Здесь нет надежного ограждения, освещения.

Не огорожены, не освещаются и имеют слабую техническую укрепленность склады кормов и семян в ряде хозяйств. Именно поэтому такие объекты подвергались "нападению" воров ранее. В "Новом быту" было похищено свыше тонны семенного зерна.

В ходе пожарно-технического обследования установлено, что в каждом хозяйстве не устраняется ежегодно 30-50 нарушений правил пожарной безопасности, которые было рекомендовано ликвидировать. Территории многих ферм захламлены сгораемым мусором и остатками кормов. Практически во всех хозяйствах сторожевая охрана не обеспечена телефонной связью. Водонапорные башни не оборудованы приспособлениями для забора воды. Не случайно в 1999 году за различные нарушения правил пожарной безопасности к административной ответственности привлечено 114 работников сельского хозяйства.

В решении райисполкома отмечена неудовлетворительная работа руководства колхозов им. Калинина, "Парижская коммуна", "Дуброва", "Забычанье", "Ленинский путь", "Новый быт", "Прогресс", "Родина" по его выполнению. Руководители были обязаны до 1 октября 2000 года провести работу по укреплению складских и других помещений, обеспечить надежную охрану объектов.

Начальнику отдела внутренних дел Е. Л. Кострову поручено активизировать работу коллектива по выявлению хищений в агрокомплексе. Руководство РОВД старается выполнить данное поручение. Приведу несколько примеров в подтверждение сказанного.

Систематически проводятся рейды по объектам хозяйств. Так, 5 июля 2000 года в колхоз "Россия" выехала оперативная группа сотрудников милиции, в состав которой вошли М. М. Мамуто, А. В. Усов, В. В. Подгурский, В. В. Смоляков, М. М. Цудиков во главе с заместителем начальника РОВД С. Я. Старовойтовым. Пришлось остановить трактор "Беларусь" с телегой, на которой ехали животноводы после вечерней дойки коров в летнем загоне. Выявилось, что доярка Л. В. Василевская похитила 5 литров молока для личных нужд. Такие случаи кражи молока теперь распространены. С этим злом надо вести постоянную, решительную борьбу всем, кто в ней заинтересован.

У меня есть перечень фактов воровства сельхозпродукции, выявленных в хозяйствах за прошедший период 2000 года. Неработающий А. Кузменков похитил с бурта 49 килограммов картофеля колхоза "Дуброва". Скотник В. Ганжуров в этом хозяйстве украл на Клеевичской ферме 39 килограммов корнеплодов. Строитель колхоза И. Коршунов унёс 49 килограммов картофеля. Колхозным комбикормом потчевал свой скот неработающий в "Смольках" А. Райтузов. Столько же (97 кг) сумел прихватить концентратов слесарь А. Сикорский. Скотник А. Поляков позарился на аммиачную селитру. "Приобрел" 1 центнер удобрения. Тяжко было нести 93 килограмма колхозного комбикорма Л. Миренкову из Канич.

"Охотятся" сейчас и за топливом. И. Серяков с экскаваторщиками ДСУ-37 А. Серяковым, Н. Буздык похитил 20 литров горюче-смазочных материалов.

Почти полтонны силоса унёс из Крапивенской фермы В. Купченко. А. Зайцев из д. Вишеньки украл 300 килограммов кормовой свеклы в колхозе "Родина". В этом же хозяйстве прибрал к рукам 67 килограммов зерна М. Саверченко.

Всего за 6 месяцев выявлено по району 57 хищений государственной собственности. Преступники получили соответствующие наказания. Они либо оштрафованы, или получили сроки исправительных работ с удержанием сумм из зарплаты.

Могут некоторые возразить мне. Дескать, всё это мелочи. Подумаешь, человек взял мешок картофеля, или зерна. Но ведь из малого складывается большое.

Добавлю, что есть два вида ответственности в таких случаях: уголовная и административная. Если человек совершает кражу повторно в течение года, он уголовно наказуется по статье 94 Кодекса (лишение свободы на 2 года, или исправительные работы на такой срок).

И еще. Кража хотя и мелкая, но ответственность большая. Это преступление перед собственной совестью. Поэтому тем, кто собирается совершить мелкое хищение, рекомендую задуматься над тем, какие меры воздействия могут наступить...

В заключение замечу, что выполнение названного решения райисполкома № 10-1 будет рассматриваться в ноябре 2000 года. Правоохранительным органам, руководителям хозяйств, предприятий АПК придется отчитываться о проделанной работе. Вести ее всем надо совместно и целеустремленно.

**Николай ЖАРИКОВ,**
**начальник отделения охраны правопорядка РОВД.**

У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖАЎНАГА КАНТРОЛЮ

# Прыменены эканамічныя санкцыі

Крычаўскім міжраённым Камітэтам дзяржаўнага кантролю з пачатку 2000 года праведзена 48 праверак прадпрыемстваў і арганізацый розных форм уласнасці. На 46 устаноўлены парушэнні нарматыўных актаў. Па выніках праверак прыменена эканамічных санкцый на суму 34394,2 тыс. рублёў, спагнана ў даход дзяржавы 19984,2 тысячы рублёў, у тым ліку па санкцыях, прымененых у 2000 годзе, 14408,5 тысячы рублёў, што склала 42 працэнты ад прымененых санкцый.

У ходзе праводзімых праверак у большасці сваёй выяўлены парушэнні дысцыпліны цэн якасці рэалізуемай прадукцыі, якія сталі магчымымі ў выніку нізкага і неэфектыўнага кантролю ведамаснымі службамі за ходам выканання суб'ектамі гаспадарання рашэнняў дзяржаўных органаў, якія здзяйсняюць рэгуляванне і кантроль за цэнаўтварэннем. Матэрыялы праверкі паказалі, што на шэрагу прадпрыемстваў дапускаюцца неабгрунтаваныя завышэнні сабекошту выпускаемай прадукцыі, прымяняюцца цэны значна вышэй устаноўленых прагнозных паказчыкаў іх росту, завышаюцца ўстаноўленыя размеры оптавых і гандлёвых надбавак. Так, напрыклад, парушэнні дысцыпліны цэн дапушчаны на ААТ "Хоцімскі маслазавод", "Ваенсервіс" г. Магілёва, ААТ "Краснапольскі маслазавод", ААТ "Клімавіцкі маслазавод".

Улічваючы складанае фінансавае становішча прадпрыемстваў і арганізацый, на калегіі Камітэта дзяржаўнага кантролю Магілёўскай вобласці шэраг прадпрыемстваў і арганізацый вызвалены ад прымененых эканамічных санкцый на суму 11708,9 тысячы рублёў. Унесена 24 прапановы органам улады і кіравання для прыняцця мер па ўскрытых недахопах работы.

За дапушчаныя рознага роду парушэнні прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці 71 чалавек. Сума адміністрацыйных штрафаў склала 675,3 тысячы рублёў. Прыцягнута да дысцыплінарнай адказнасці 62 чалавекі.

У ходзе работы міжраённага Камітэта дзяржаўнага кантролю разгледжана 14 пісьмовых зваротаў афіцыйнага і ананімнага характару.

Па асабістых пытаннях прынята 62 чалавекі, дзе ім дадзены адпаведныя тлумачэнні.

Па матэрыялах праверак мела месца асвятленне вынікаў іх у сродках масавай інфармацыі ў 37 выпадках.

**Крычаўскі міжраённы Камітэт дзяржаўнага кантролю.**

ПІШАМ ГІСТОРЫЮ КРАЮ

# КАСЦЮКОЎШЧЫНА НА РУБЯЖЫ XVIII-XIX СТАГОДДЗЯЎ

*(Працяг. Пачатак у № 57)*

Прабелка цукру праводзілася ў бляшаных або гліняных формах. Меліся дзве цэнтрафугавальныя машыны, якія прыводзіліся ў рух ад паравога машыннага катла высокага ціску. Упраўляючым маёнткам Г. М. Комар быў Рафалоўскі. Па звестках за 1859 г. цукровы завод у Мікалаеўцы выдаў 1000 пудоў цукровага пяску. На прадпрыемстве працавалі два замежныя майстры і 200 рабочых, "усе вольнанаёмныя". Пазней упамінаюцца ўжо тры паравыя машыны. Важныя такія звесткі: "На заводзе ўжываюцца цукровыя буракі, якія вырошчваюцца на ўласных палях, а большай часткай набываюцца ў сваіх сялян і суседніх памешчыкаў. Цукар прадаецца ў Маскве".

У сяльцы Хоцімск памешчык Галынскі заснаваў гарбарную фабрыку. Вось вытрымкі з ведамасці 1859 г.: "На фабрыцы ў год апрацавана скур увогуле – юхтавых, чорных і белых гатовых глянцавых, коштам ад 50 кап. да 4 руб., 700 на суму 1000 руб., аўчын для шуб-дублёнак і белых ад 40 кап. да 60 кап. – 1000 на суму 400 руб.". Асобныя звесткі: "На фабрыцы ўжываецца рыбінага тлушчу 25 пудоў, купарвасу 3 пуды, сандалу 10 пудоў, попелу ляснога 50 чвэрцяў, вапны нягашанай 30 чвэрцяў, аўса 2 чвэрці, солі 2 пуды, кары вярбовай і лазовай 1600 пудоў. Рыбін тлушч, купарвас і сандал набываўся шляхам пакупкі ў Магілёўскай губерні, а іншае з уласных вытворчасцей.

Другая палова XIX – пачатак XX ст. – час глыбокіх перамен у гісторыі Расіі. Крызіс феадальна-прыгонніцкай сістэмы і зараджэнне капіталістычных адносін выклікалі на рубяжы 50-60-х гадоў рэвалюцыйную сітуацыю, якая ў канчатковым выніку прывяла да сялянскай рэформы 19 лютага 1861 г. – адмены прыгоннага права.

У Магілёўскай губерні адмена прыгоннага права ажыццяўлялася на падставе "Агульнага палажэння" і аднаго з "Мясцовых палажэнняў".

"Агульнае палажэнне" змяшчала самае істотнае: сяляне атрымоўвалі асабістую свабоду і права свабодна распараджацца сваёй маёмасцю; памешчыкі захавалі ўласнасць на ўсе землі, якія ім належалі, аднак абавязаны былі аддаць у карыстанне сялянам "сядзібную аселасць" і "палявы надзел". Сялянам давалася права выкупу сядзібы і па згодзе з памешчыкам – палявога надзелу. Да ажыццяўлення гэтага яны лічыліся часоваабавязанымі.

Пазямельнае ўпарадкаванне сялян Магілёўскай губерні праводзілася па "Мясцовым палажэнні" для вялікарасійскіх, новарасійскіх і беларускіх губерняў. Па гэтым дакуменце ўся названая тэрыторыя дзялілася на тры паласы: чарназёмную, нечарназёмную і стэпавую. Кожная паласа ў залежнасці ад памеру надзелаў дзялілася яшчэ на мясцовасці. Магілёўская губерня адносілася да нечарназёмнай паласы. Для яе былі ўстаноўлены дзве нормы душавых надзелаў – вышэйшая і ніжэйшая. Ніжэйшая норма павінна была быць у тры разы меншай, чым вышэйшая. Душавы надзел адводзіўся толькі мужчынам. Калі дарэформенны надзел перавышаў вышэйшую для дадзенай мясцовасці ўстаноўленую норму, памешчык меў права павялічыць надзел, ці паменшыць павіннасць у адпаведнасці з памерам надзелу. На Магілёўшчыне, у тым ліку і на Касцюкоўшчыне, памеры надзелаў вагаліся – вышэйшы ад 4 да 5,5 дзес., ніжэйшы — ад 1 дзес. 800 кв. сажняў да 1 дзес. 2000 кв. сажняў.

За карыстанне зямлёй сяляне павінны былі выконваць на карысць памешчыка пэўныя павіннасці.

З падзеннем у 1861 г. прыгоннага права ў Касцюковічах хутчэй пачалі развівацца саматужныя промыслы па апрацоўцы скур жывёлы, памолу зерня на муку, абдзірцы ячменю на крупы. Ствараюцца прадпрыемствы па распілоўцы лесу, вырабу палоззя для саней, дуг і інш.

На працягу другой паловы XIX ст. хутка вялося будаўніцтва чыгуначных дарог, якія звязалі заходнія землі з цэнтральнымі раёнамі Расіі, Украінай, з портамі Прыбалтыкі. Дзякуючы гэтаму, сельская гаспадарка цесна звязвалася з агульнарасійскім рынкам. Але вытрымаць канкурэнцыю з памешчыцкімі гаспадаркамі Паволжа, Украіны і іншых чарназемных раёнаў Расіі памешчыкі заходніх зямель не маглі. Яны былі вымушаны прыстасоўваць свае гаспадаркі да ўмоў і патрабаванняў рынку.

Вось чаму памешчык Цеханавецкі пачаў сваю гаспадарку ў Касцюковічах і ў іншых уладаннях спецыялізаваць на вытворчасці тэхнічных культур і малочных прадуктаў. У панскіх маёнтках значна павялічыліся пасевы культур, якія ішлі на прамысловую перапрацоўку.

Так, 1872 г. на правым беразе р. Жадунька памешчык Цеханавецкі стварыў фальварак "Новыя Касцюковічы" (цяпер Слабада) і заснаваў вінакурны завод. Сюды была перасялена частка сялян з в. Васілёўка.

У даведніку "Указальнік фабрык і заводаў Еўрапейскай Расіі і царства Польскага" ёсць звесткі аб гэтым прадпрыемстве. У 1897 г. тут працавала 14 чалавек, выпрацоўвалася спірту на 3441 руб. На заводзе быў устаноўлены адзін рухавік магутнасцю 4 конскія сілы.

Спірт вывозіўся на продаж, а адходы ад перапрацоўкі бульбы і зерня (брага) выкарыстоўваліся на корм буйной рагатай жывёлы, што давала магчымасць павялічваць вытворчасць малочных прадуктаў (масла, сыру і г.д.).

У гэты ж час выпускаў прадукцыю вінакурны завод "Пасека" ў фальварку памешчыка Кажэўнікава.

У фондзе будаўнічага аддзялення Магілёўскага губернскага праўлення ёсць справа "Аб прашэнні памешчыка Чэрыкаўскага павета Станіслава Галынскага і дазволу яму наладжвання запалкавай фабрыкі ў вёсцы Хоцімск". У гэтай справе маецца пратакольны запіс Магілёўскага губернскага праўлення ад 5 жніўня 1880 г. аб дазволе памешчыку С. Д. Галынскаму адкрыць запалкавую фабрыку за адну вярсту ад в. Хоцімск у будынку былога кушнерскага завода, які належаў вышэйназванаму памешчыку.

У ведамасці фабрык і заводаў Магілёўскай губерні за 1881 г. маюцца звесткі аб запалкавай фабрыцы С. Д. Галынскага. "Адкрыта ў 1880 г., колькасць майстроў – 8, колькасць пастаянных рабочых – 20, колькасць вырабаў у год – 8 тыс. скрынь (па 1000 пачкаў у кожнай скрыні), валавы даход – 5 тыс. руб. у год".

Па звестках за 1884 г., колькасць пастаянных рабочых – 30, колькасць вырабаў у год – 8 тыс. скрынь на суму 16 тыс. руб.

**Віктар БОНДАРАЎ.**

**(Пр яг будзе)**

ЭТО НУЖНО ЗНАТЬ

# Порядок расчетов за потребленную энергию

***В связи с имеющими место вопросами потребителей электроэнергии, отпускаемой предприятиями концерна "Белэнерго", в данной статье даются разъяснения РУП "Могилевэнерго" по установленному в Республике Беларусь порядку расчетов за потребленную электроэнергию со всеми потребителями, кроме населения.***

Требования к проведению расчетов за потребленную энергию изложены в следующих нормативных документах:

Указ Президента Республики Беларусь от 15.08.1994 г. № 50 "О расчетах потребителей за природный газ, электрическую и тепловую энергию" (в дальнейшем – Указ № 50);

Указ Президента Республики Беларусь от 17.09.1999 г. № 546 "О совершенствовании порядка взыскания пени за неоплаченные в срок энергоресурсы" (далее – Указ № 546);

Постановление Совета Министров Республики Беларусь от 30.08.1993 г. (№ 581 "О дополнительных мерах по обеспечению народного хозяйства республики топливно-энергетическими ресурсами и усилению контроля за эффективностью их использования" (в дальнейшем – Постановление № 581);

Постановление Министерства экономики Республики Беларусь от 28.08.1998 г. № 66 "Об индексации цен и тарифов на энергоресурсы и задолженности по платежам за них" (в дальнейшем – Постановление № 66);

Декларация об уровне тарифов на электрическую энергию, реализуемую предприятиями концерна "Белэнерго", зарегистрированная Комитетом цен при Министерстве экономики Республики Беларусь (в дальнейшем – Декларация).

Все потребители электроэнергии в соответствии с Правилами пользования электрической и тепловой энергией разделены на две группы по установленной мощности токоприемников:

промышленные и приравненные к ним потребители с присоединенной мощностью 750 кВа и выше;

промышленные и приравненные к ним потребители с присоединенной мощностью до 750 кВа.

Расчеты за потребленную электроэнергию с обеими группами потребителей проводятся в следующем порядке:

1. Промышленные и приравненные к ним потребители с присоединенной мощностью 750 кВа и выше 1, 10 и 20 числа расчетного месяца, в соответствии с пунктом 5 Постановления № 581 и пунктом 1 Указа № 50 обязаны в форме предоплаты перечислить на расчетный счет энергоснабжающей организации сумму, включающую:

основную плату по тарифу, указанному в пункте 1 Декларации (только один раз 1-го числа расчетного месяца);

дополнительную плату за планируемый объем десятидневного потребления энергии, по тарифу, указанному в пункте 1 Декларации.

При этом и основная и дополнительная плата рассчитываются по тарифам Декларации, проиндексированным в соответствии с пунктом 1 Постановления № 66 и пунктом 5 примечания к Декларации.

2. Промышленные и приравненные к ним потребители с присоединенной мощностью до 750 кВа 1-го числа расчетного месяца, в соответствии с пунктом 5 Постановления № 581 и пунктом 1 Указа 50 обязаны в форме предоплаты перечислить на расчетный счет энергоснабжающей организации сумму оплаты по тарифу за планируемый объем месячного потребления энергии. Данная сумма рассчитывается по установленному для потребителя Декларацией тарифу, проиндексированному в соответствии с пунктом 1 постановления № 66 и пунктом 5 примечания к Декларации.

3. В случае непоступления от потребителя предварительной оплаты энергоснабжающая организация вправе направить в банк платежное требование на сумму, необходимую для оплаты заявленного в договоре на энергоснабжение объема отпуска энергии.

4. При поступлении от потребителей оплаты происходит погашение сложившейся задолженности в порядке ее образования. В итоговом расчете за месяц начисляется и предъявляется к оплате сумма индексации произведенной оплаты (т.е. сумма, образовавшаяся за счет разницы между курсом рубля Республики Беларусь к доллару США на день выставления энергоснабжающей организацией платежного требования и курсом на день фактической оплаты платежного требования потребителем), в соответствии с пунктом 2 абзаца 2 Постановления № 66.

5. По показаниям коммерческих приборов учета, представленных потребителем по состоянию на последнее число расчетного месяца, энергоснабжающей организацией проводится итоговый расчет за месяц. В итоговом расчете производится начисление индексации задолженности прошлого периода по состоянию на последнее число расчетного месяца в соответствии с пунктом 2 Постановления № 66. По результатам итогового расчета потребителю предъявляется к оплате платежное требование, включающее сумму, начисленную потребителю к оплате по тарифам за потребленную в течение месяца энергию, сумму индексации на поступившую в течение месяца оплату и сумму индексации задолженности прошлого периода. К платежному требованию прилагается счет с подробной расшифровкой предъявленной к оплате суммы.

6. С октября 1999 года на основании Указа № 546 за невыполнение в срок обязательств по оплате полученной энергии с потребителей, в бесспорном порядке взыскивается пеня. Обязательства по оплате энергии наступают в сроки, указанные в договоре на энергоснабжение (сроки оплаты). Данный вид платежа выставляется после итогового расчета, исходя из фактического потребления энергии за месяц и соблюдения установленных договором на энергоснабжение сроков оплаты. Пеня предъявляется к оплате инкассовым распоряжением, суммы по которым подлежат безакцептному списанию банками с расчетного счета потребителя.

Особо необходимо отметить, что при расчетах за потребленную энергию потребителями, которым постановлениями правительства предоставлена отсрочка погашения задолженности (например, для предприятий агропромышленного комплекса – по Постановлению Совета Министров Республики Беларусь от 10.02.2000 г. № 185 "Об отсрочке погашения задолженности колхозов, совхозов и других сельскохозяйственных предприятий за потребленные ими энергоресурсы"), индексация на задолженность, по которой предоставлена отсрочка, не начисляется. Поступающая от потребителей оплата относится в счет оплаты текущего потребления энергии. Образовавшаяся после предоставления отсрочки задолженность индексируется на общих основаниях в соответствии с п. 2 Постановления № 66. Данный порядок действует до расторжения договоров отсрочки погашения задолженности, заключенных между энергоснабжающей организацией и потребителем.

Как видно из приведенного выше описания установленного законодательством порядка расчетов – за энергию экономически выгодно платить вовремя и в полном объеме. Неоплаченный в срок киловатт/час дорожает в соответствии с ростом курса доллара США, который учтен в трех составляющих платежей:

индексации тарифа;

индексации на оплату (индексации задолженности, сложившейся за текущий расчетный период из-за несвоевременной оплаты платежных требований;

индексации задолженности прошлого периода.

Кроме того, при несоблюдении указанных в договоре сроков оплаты в бесспорном порядке взыскивается пеня в размере ставки рефинансирования Национального банка Республики Беларусь.

Приведенный порядок расчетов является единым по всей Республике Беларусь и распространяется как на расчеты за потребленную электрическую энергию, так и на расчеты за потребленную тепловую энергию.

Подробные разъяснения по расчетам за энергию все субъекты хозяйствования могут получить в районах электрических сетей и филиалах электрических и тепловых сетей РУП "Могилевэнерго". Одновременно я выражаю готовность рассматривать все вопросы, неразрешенные на уровне филиалов РУП "Могилевэнерго".

**В. СЕРГЕЕВ,**
**генеральный директор РУП "Могилевэнерго".**

# МАК – ТОЙ ЖА НАРКОТЫК

Здавалася б, што дрэннага ў тым, калі на агародзе расце мак? Раней руплівыя гаспадыні запасаліся гэтай смачнай прыправай для булак, пірагоў. Але ж раней не ведалі і такое слова, як "наркаманія". А мак напрамую звязаны з гэтым словам, таму што макавая салома – усе часці (як цэлыя, так і здробненыя, як высушаныя, так і нявысушаныя, за выключэннем спелага насення) ўсіх гатункаў мака, сабранага любым спосабам, утрымліваюць наркатычна актыўныя алкалоіды опіуму.

Здробненую салому мака наркаманы прымяняюць як непасрэдна (заглытваюць), так і для вырабу экстракцыйнага і атэтыліраванага опіуму.

Няспелыя каробачкі маку ўтрымліваюць малочны сок, у склад якога ўваходзяць наркатычныя сродкі – марфін, кадэін, цебаін.

Спелае насенне маку ў сваім саставе ўтрымлівае алкалоіды опіуму ў следавых колькасцях, таму насенне любых сартоў мака да наркатычных сродкаў не адносіцца.

Чаму так падрабязна расказваю аб уласцівасцях маку? Хацелася б, каб той, хто на сваім агародзе, нягледзячы на забарону, вырошчвае мак, няхай і для дамашніх мэт, ведаў, што ён вольна ці нявольна садзейнічае распаўсюджванню наркаманіі.

Як сведчаць статыстычныя даныя, у Беларусі адзначаецца рост ліку хворых наркаманіяй. Што гэта за хвароба, многія, пэўна, ведаюць.

Нягледзячы на прафілактычныя мерапрыемствы, штрафы, папярэджванні, некаторыя жыхары нашага раёна ўсё ж вырошчваюць на сваіх агародах мак. Вядома, рассейваецца ён сам, але ж гаспадары бачаць, як ён расце і не прымаюць мер.

За шэсць месяцаў бягучага года супрацоўнікамі РАУС былі складзены 22 пратаколы (для параўнання: у мінулым годзе за такі ж перыяд – 5). А за няпоўныя сем месяцаў гэта лічба ўзрасла ўжо да 65. І як выявілася, большасць парушальнікаў жывуць у горадзе. Участковымі былі складзены 33 пратаколы на іх. Асабліва гэта датычыць жыхароў вуліц "60 год Кастрычніка", Першамайскай, завулкаў Юнацкі і 1-ы Інтэрнацыянальны.

Супрацоўнікі РАУС вядуць актыўную барацьбу з парушальнікамі закона. Добра ў гэтым плане папрацавалі ўчастковыя Сяргей Базанаў і Віктар Гаўруноў. Артыкулам 100-1 Кодэкса РБ "Аб адміністрацыйных правапарушэннях РБ" за незаконную сяўбу або вырошчванне масліічнага маку або каноплі прадугледжваецца папярэджванне або штраф ад 5 да 10 мінімальных заработных плат.

За шэсць месяцаў 1999 года былі выяўлены 3 факты незаконнага абароту наркотыкаў, у гэтым за такі ж перыяд – 4. Грамадзянка Б., якая пражывае ў горадзе, захоўвала ў сябе марыхуану, якую пасля збыла траім грамадзянам. Узбуджана крымінальная справа.

У радыяцыйнай зоне былі выяўлены пасевы дзікарастучага мака. Ён знішчаны на 62-х квадратных метрах, што ў выніку і склала 66 кілаграмаў наркатычнай сыравіны.

Наркаманія, як вядома, крок у бяздонне. Паважаныя жыхары, не павялічвайце сваёй непаслухмянасцю гэту праблему чалавецтва.

**Уладзімір КАЛАКУСТАЎ,**
**старшы аперупаўнаважаны групы нораву і незаконнага абароту наркотыкаў РАУС.**



***Сяброўкі.***
***Фотаэцюд Людмілы СМАЛЯКОВАЙ.***



## Поздравляем!

*Поздравляем с днем бракосочетания*

***БЕРЕСТОВУ***
***Ольгу Валерьевну** и*
***ТУРКОВА***
***Алексея Анатольевича***

*Мы вам супруги молодые,*
*Желаем счастья и добра.*
*Пусть будет светлою дорога,*
*Пусть будет дружною семья.*
*Храните чуткость, нежность, ласку,*
*Не забывайте первых встреч.*
*И кольца те, что в руки взяли,*
*Сумейте до конца сберечь.*
*Желаем вам красиво жить,*
*Ваш брак без брака должен быть.*

***Коллектив работников СШ № 3.***

**Костюковичская государственная передвижная механизированная колонна № 260** переименовывается в ***Строительное республиканское унитарное предприятие "Костюковичская передвижная механизированная колонна № 260".***



**Адміністрацыя, прафсаюзны камітэт аддзялення ААТ Белаграпрамбанка выказвае глыбокае спачуванне намесніку кіраўніка БЕЛАБАРОД Таццяне Андрэеўне ў сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам – смерцю МАЦІ.**

**Калектыў Прусінскай базавай школы выказвае глыбокае спачуванне ДАЎГАЛЁВАЙ Раісе Андрэеўне з выпадку напаткаўшага гора – смерці МАЦІ.**

**Калектыў работнікаў СШ № 3 выказвае глыбокае спачуванне настаўніцы КАБЫЛІНСКАЙ Святлане Ягораўне з выпадку напаткаўшага вялікага гора – дачаснай смерці БАЦЬКІ.**

**Калектыў мастацкай самадзейнасці "Чабатуха" Прусінскага сельскага Дома культуры глыбока смуткуе з прычыны смерці ўдзельніцы ансамблю**

**КЛІМЯНКОВАЙ**
**Кацярыны Васільеўны**
**і выказвае спачуванне сям'і нябожчыцы.**


**Нам. галоўнага рэдактара Віктар БОНДАРАЎ**

**ГОЛАС КАСЦЮКОЎШЧЫНЫ**

ЗАСНАВАЛЬНІК: КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
*213640, г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 43*
*Індэкс газеты 64045*

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*галоўны рэдактар -- 2-11-33; нам.галоўнага рэдактара, адказны сакратар -- 2-16-94; аддзелы: аграпрамысловы і інфармацыі -- 2-16-34; пісьмаў і масавай работы, бухгалтэрыя --2-23-55.*

*Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы А. ШПАКАВА.*
**Газета выходзіць у сераду і суботу.**

*Аб'ём газеты -1 друкаваны аркуш*
*Тыраж 1514 экземпляраў*
*Друк афсетны*
*Падпісана ў друк 1. 08. 2000 г. 18.00*
*Заказ № 59*

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.**

**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

**Рэгістрацыйны нумар 760 ад 29 сакавіка 1997 года. Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М. Свярдлова, вул. Першамайская, 72.**